# БЮЛЕТЭНЬ

## Соймавага Клюбу „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“

№ 12 | Вільня, Чацьвер 27 трауня 1926 году. | № 12


## Арганізацыйны Статут Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

### Сябры Грамады.

1. Сябром Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады можа быць кожны селянін, работнік і працоўны інтэлігент, які—ведаючы добра праграму Грамады — ня толькі згаджаецца з гэтаю праграмаю, але стала і станоўча гатоў працаваць над стварэньнем сьвядомай сарганізаванай сялянска-работніцкай сілы і пачувае сябе гатовым на ўсякія труды, з працай гэтай зьвязаныя.

2. Абавязкам кожнага сябра Грамады зьяўляецца:

а) выконаваць усялякія арганізацыйныя распараджэньні, атрыманыя ад партыйных уладаў, а таксама прыймаць партыйныя становішчы, на якія будзе выбраны;

б) аплачаваць партыйную складку, разьмер якой вызначае сам паводле ўласнага разуменьня і магчымасьці;

в) чытаць і аплачаваць газэты, выдаваныя Грамадой, а таксама пастаянна знаходзіць для іх новых чытачоў і падпішчыкаў;

г) мець партыйны білет.

3. Кожны сябра Грамады мае права:

а) прыймаць учасьце на сходах і зьездах Грамады;

б) выбіраць і быць выбіраным на ўсе становішчы ў партыйнай арганізацыі.

4. Сябры Грамады прыймаюцца мяйсцовай арганізацыяй або вышэйшымі партыйнымі ўладамі.

5. Ніхто з сяброў Грамады ня можа належаць да іншых палітычных партыяў. Калі-б гэта сталася, дык такі сябра аўтаматычна выключаецца з Грамады.

6. Калі-б хто з сяброў Грамады ня выканаў без даведзенай прычыны якога-небудзь з прынятых на сябе абавязкаў або запляміў-бы сябе паступкам паніжаючым годнасьць чалавека працы, дык гэткі сябра на пэўны час пазбаўляецца правоў сябра Грамады або зусім выключаецца з партыі. Пазбавіць правоў сябра Грамады можа кожная мяйсцовая арганізацыя. Выключыць з Грамады мае права толькі Цэнтральны Камітэт. Гэтае сваё права Цэнтральны Камітэт можа перадаваць і даручаць іншым партыйным уладам.

Пазбаўленыя на пэўны час правоў сябра Грамады маюць права ў працягу месяца абжалаваць пастанову мяйсцовай арганізацыі ў Цэнтральны Камітэт, які і вырашае тады аканчальна гэтую справу.

### Мяйсцавая арганізацыя.

7. Сябры Грамады, якія пражываюць ў аднэй ці некалькіх суседніх вёсках, ствараюць партыйны гурток. У вялікіх мястэчках і гарадох районныя гурткі Грамады могуць лучыцца ў адзіную гарадскую арганізацыю Грамады.

8. Гурток выбірае свой Камітэт, складзены з трох асоб: старшыні, сэкрэтара і скарбніка. Камітэт выступае ад імя Гуртка, згодна з пастановамі Гуртка, або згодна распараджэньняў вышэйшых партыйных уладаў.

9. Сходы Гуртка адбываюцца ў меру патрэбы і склікаюцца з уласнай ініцыятывы Камітэту, на жаданьне трох сяброў Гуртка або на жаданьне вышэйшай партыйнай улады.

10. Да кампетэнцыі Гуртка належыць:

а) прыймо сяброў і пазбаўленьне іх правоў;

б) выбар дэлегатаў на партыйныя зьезды і кангрэс;

в) зьбіраньне складак, партыйных ахвяраў і падпіскі ад сяброў на газэту;

г) вызначэньне для Камітэту і паасобных сяброў Гуртка прац арганізацыйна-агітацыйных, асабліва ж працы ў пашырэньні партыйных друкаў і ў знаходжаньні новых падпішчыкаў газэты;

д) прыйманьне справаздачаў аб дзеяльнасьці Камітэту і паасобных сяброў Гуртка;

е) вызначэньне кандыдатаў у гміпную раду, касу хворых, а таксама ў-ва ўсякія мяйсцовыя таварыствы прасьветныя, гаспадарчыя і грамадзкія;

ж) разважаньні над палітычнымі справамі і прыйманьне пастановаў як агульных, так і ў справах мяйсцовага характару.

11. Адказным перад партыяй за працу Гуртка зьяўляецца Камітэт Гуртка.

### Павятовая арганізацыя.

12. Сябры Грамады, якія жывуць у адным павеце, складаюць арганізацыю Грамады данага павету.

13. Сябры Грамады зьбіраюцца ня меньш аднаго разу ў год на павятовы зьезд.

14. Павятовы зьезд Грамады склікаецца Павятовым Камітэтам па:

а) пастанове Павятовага Камітэту;

б) жаданьню вышэйшай партыйнай улады;

в) жаданьню найменьш трох партыйных Гуртkoў.

15. Павятовы зьезд

а) выбірае Павятовы Камітэт у складзе старшыні, сэкрэтара, скарбніка і па адным сябру Камітэта ад кожнага Гуртка;

б) прыймае справаздачу аб дзеяльнасьці Камітэту;

в) разважае справы палітычныя і выносіць у гэтых справах свае пастановы.

г) выбірае дэлегатаў на партыйны Кангрэс.

16. Засяданьні Павятовага Камітэту вызначаюцца:

а) пастановай папярэдняга засяданьня;

б) старшынёй Камітэту з уласнай ініцыятывы або на жаданьне двух сяброў Камітэту;

в) на жаданьне вышэйшай партыйнай улады.

17. Да абавязкаў Павятовага Камітэту належыць:

а) падгатоўка і скліканьне павятовых зьездаў;

б) кантраляваньне дзеяльнасьці мяйсцовых Гуртkoў і прэзідыуму Камітэту;

в) выконаваньне пастановаў зьездаў;

г) арганізаваньне мітынгаў і палітычных нарадаў, кіраваньне палітычнай акцыяй на абшарах павету ў мэтах паглыбленьня сьвядомасьці беларускіх сялянскіх і работніцкіх масаў і пашырэньня арганізацыі;

д) складаньне Цэнтральнаму Камітэту квартальных (4 разы ў год) справаздачы аб партыйнай дзеяльнасьці, а таксама аб палітычным, культурным і гаспадарчым жыцьці ў павеце.

18. Пастановы Камітэту выконывае прэзідыум у складзе старшыні, сэкрэтара і скарбніка. Прэзідыум павінен утрымліваць сталую сувязь з Камітэтамі Гуртkoў і з Цэнтральным Камітэтам. Прэзідыум выдаець сяброўскія білеты; кантралюе падпіску на газэту і сяброўскія складкі, а таксама пашыраньне партыйных друкаў.

Адказным перад Цэнтральным Камітэтам за стан працы ў павеце зьяўляецца прэзідыум; прэзідыум падаець Цэнтральнаму Камітэту кожны месяц сьпіс усіх сяброў грамады ў павеце.

### Акружная арганізацыя.

19. Цэнтральны Камітэт, калі знойдзець патрэбным, стварае Акружныя Арганізацыі Грамады, злучаючы ў іх па некалькі павятовых арганізацый.

### Агульны зьезд.

20. Найвышэйшай уладай Грамады зьяўляецца Агульны Зьезд. Агульны Зьезд пастанаўляе аб усей палітычнай і арганізацыйнай дзеяльнасьці Грамады, а таксама аб праграме, тактыцы і статуце, выбірае Цэнтральны Камітэт і Рэвізыйную Камісію Грамады, а роўна прыймае ад іх справаздачу.

21. Агульны Зьезд складаецца з дэлегатаў, выбраных ад Гуртkoў, а таксама на павятовых зьездах, і склікаецца Цэнтральным Камітэтам ня меньш аднаго разу ў год. На жаданьне найменш 7 арганізацый павятовых (зьездаў ці павятовых камітэтаў) Цэнтральны Камітэт абавязаны склікаць Агульны Зьезд у працягу трох месяцаў.

### Цэнтральны Камітэт.

22. Цэнтральны Камітэт кіруе дзеяльнасьцю Соймавага Клюбу, Павятовых Камітэтаў і ўсіх іншых арганізацый Грамады.

23. У выпадку (пільнай) патрэбы выявіць становішча ўсяе Грамады ў паасобных справах,— Цэнтральны Камітэт склікае Раду Грамады, складзеную з прадстаўнікоў Павятовых Камітэтаў і мужоў даверыя.

24. Цэнтральны Камітэт складаецца з 11 сяброў і выбірае з-паміж сябе прэзідыум у складзе 5 асоб, у гэтай лічбе старшыню, віцэ-старшыню, скарбніка, сэкрэтара і яго заступніка.

25. Засяданьні Цэнтральнага Камітэту адбываюцца ў меру патрэбы і склікаюцца старшынёю з яго ініцыятывы, па пастанове прэзідыуму або на жаданьне трох сяброў Камітэту.

26. Для вядзеньня паасобных галін працы Цэнтральны Камітэт стварае аддзелы і выбірае з лічбы сяброў Камітэту кіраўнікоў гэтых аддзелаў.

27. Засяданьні Прэзідыуму Ц. К. адбываюцца раз на тыдзень. На свае засяданьні Прэзідыум мае права запрашаць кіраўнікоў паасобных аддзелаў.

### Рэвізыйная Камісія.

28. Рэвізыйная Камісія складаецца з трох сяброў і аднаго заступніка, якіх выбірае Агульны Зьезд Грамады.

29. Рэвізыйная Камісія спраўджае прыхода-расходную кнігу Цэнтр. Камітэту і робіць справаздачу на Агульным Зьездзе Грамады.

### Фінансы Грамады.

30. Фінансы Грамады складаюцца:

а) з сяброўскіх складак;

б) са складак пасольскіх;

в) з даходаў ад прадажы партыйнае літэратуры;

г) з ахвяраў і даходаў надзвычайных.

31. Палова сяброўскіх складак застаецца ў арганізацыі мяйсцовай ці павятовай, другая-ж палова адсылаецца ў Цэнтральны Камітэт.

32. Павятовыя зьезды маюць права ўстанаўляць дадатковыя складкі на спэцыяльныя мэты.

### Пастановы.

33. Пастановы ўсіх партыйных уладаў і сабраньняў прыймаюцца звычайнай большасьцю галасоў. Пастановы-ж Агульнага Зьезду адносна праграмы, ці тактыкі або Статуту Грамады вымагаюць большасьці ²/₃ галасоў дэлегатаў, прысутных на Кангрэсе.

### Пераходныя правілы.

34. Да часу сабраньня першага Агульнага Зьезду Грамады Цэнтральны Камітэт выбіраецца Радаю Грамады.

35. У тых паветах, дзе яшчэ ня створаны мяйсцовыя Гурткі і ня выбраны яшчэ Павятовыя Камітэты, вядуць арганізацыйную працу мужы даверыя Грамады, вызначаныя Цэнтральным Камітэтам і перад ім адказныя.

36. Гэты Арганізацыйны Статут Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады зацьверджаны на засяданьні Рады Грамады 12. V. 1926 году і зьяўляецца абавязковым для ўсіх сяброў Грамады да часу скліканьня першага Агульнага Зьезду Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

---

## Інтэрпэляцыя № 50

дэпутата Тарашкевіча з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да паноў Міністраў Унутраных Спраў і Справядлівасьці **ў справе правакатарскай тактыкі паліцыі Горадзенскага павету і бяспраўнага пратрыманьня ў працягу дзесяцёх месяцаў Васілія Шыпіцы і таварышоў у сьледчым вастрозе ў Горадні.**

Нацыянальная сьвядомасьць і групаваньне ў клясавыя сялянска-работніцкія арганізацыі ў Заходняй Беларусі брутальна стрымоўваюцца ботам паліцыянта. А дзеля таго, што польская Канстытуцыя фармальна не дазваляе абвінавачваць людзей і садзіць іх у вастрог за гэтакія „правіненьні“, то паліцыя памагае сабе сыстэмай правакацыі.

Вось яшчэ адзін абразок з жыцьця прыгнечанага беларускага народу:

У чэрвені мінулага году арыштавала паліцыя 3 беларускіх сялян з вёсак Каснеўцы і Рымуцеўцы, В.-Есьмантоўскай гм., Горадзенскага п. Пасадзілі іх у сьледчым вастрозе ў Горадні.

Аднаму з іх, Васілю Шыпіцы з в. Рымуцеўцы, паліцыя закідае, што ў яго доме адбываліся камуністычныя сходы. — Фактычна справа прадстаўлялася гэтак: Васіль Шыпіца, як і многа іншых з гэтай вёскі, працаваў пры будове млына ў гэтай-жа вёсцы. А дзеля таго, што хата яго знаходзіцца найбліжэй ад месца будовы, то ў яго і адбываліся тыднёвыя выплаты работнікам, што могуць пасьведчыць усе работнікі, а таксама і ўласьнік млыну, які гэтыя выплаты рабіў. Фактычным „правіненьнем“ Васіля Шыпіцы ў вачу паліцыі было тое, што ён выпісваў газэту „Беларуская Ніва“.—Гэта было повадам арыштаваньня, і таму-то і сядзіць ён ужо, лічыць, год у вастрозе ў Горадні пад сьледзтвам, а паліцыя яшчэ да цяпер ня можа сабраць вестак, якія-б усправядлівілі пазбаўленьне свабоды з боку праўна-фармальнага.

Трэба дадаць, што швагер Шыпіцы, які прыехаў да Горадні за 35 вёрст ад в. Рымуцеўцы, каб пабачыцца з арыштаваным не дастаў дазволу на пабачаньне. Сьледавацель адправіў яго славамі: „не заварочвайце мне галавы, ідзеце вон з гэтым глупствам“.

Падпісаныя пытаюцца п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці назначэньнем паліцыі ёсьць арыштоўваньне беларускіх сялян і работнікаў?

2) Ці склонны ён пацягнуць да адказнасьці функцыянераў паліцыі, віноўных правакацыі?

і п. Міністра Справядлівасьці:

1) Ці склонны ён загадаць, каб ураз-жа былі звольнены беспадстаўна арыштаваныя Васіль Шыпіца і тав. і былі пацягнуты да адказнасьці віноўнікі зацягваньня сьледзтва?

20 красавіка 1926 г.

---

## Інтэрпэляцыя № 57.

дэпутата Сабалеўскага з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Справядлівасьці **ў справе ганебных санітарных абставінаў у новым стаўпецкім арышце.**

У Стаўпцох перанесены арышт у „новы будынак“. Санітарныя абставіны ў гэтым новым арышце немагчымыя і маюць хіба мэтай павольнае забіваньне пратрымліваных там людзей.

Пограб—мокры лёх старога мураванага дому ўзялі пад арышт. Вокны — на 15 санцімэтраў ад зямлі і выходзяць на Захад і поўнач. Коміны завалены і дым выходзіць праз вокны—навет не ад-

ведзены ад печаў. Гаршкі выліваюць у вулічны рышток, што зусім затручвае паветра.

Падпісаныя пытаюцца п. Міністра: ці і які загад маніцца выдаць, каб ураз-жа скасаваць гэты арышт?

Варшава, 26 красавіка 1926 г.

## Інтэрпэляцыя №. 58.

дэпутата Мятлы з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. п. Міністраў Унутраных Спраў і Справядлівасьці ў **справе беспадстаўнага арышту і пратрыманьня ў вастрозе на Лукішках беларускіх сялян з в. Шылавічы, Слонімскага пав.**

Сыстэма ўрадаваньня польскай буржуазыйнай улады апіраецца на тэрарызаваньні працоўных мас. Тэрор гэты мэтаю сваею мае пазбаўленьне гэтых мас усялякай актыўнасьці і змушэньне іх да бязьдзейнага знашэньня ўціску, нуды і эксплёатацыі. Навет від якогасьць дэмакратызму і правілаў права ўжо перасталі абавязываць. Асабліва жорсткага характару забраў тэрор і самаволя паліцыі на землях Заходняй Беларусі. Што-дня прыходзяць весткі аб новых арыштах сярод беларускіх сялян і работнікаў, — аб новых гвалтах.

З в. Шылавічы, Слонімскага пав. пішуць нам:

У студзені сёл. году паліцыя зрабіла обыск ў Аляксея Пятрашко, Сьцяпана Пятрашко і Янкі Лукашэні, жыхароў вышэй памянутай вёскі. Ня гледзячы на тое, што обыск ня даў ніякага матэр'ялу для арышту,—тры вышэй памянутыя сяляне былі арыштованы і да сёньняшняга дня сядзяць у вастрозе на Лукішках.

Дзеля гэтага падпісаныя пытаюцца п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці склонны ён правясьці жорсткае сьледзтва ў гэтай справе?

2) Ці склонны ён пацягнуць да адказнасьці віноўных бясправўнага арыштаваньня вышэй памянутых беларускіх сялян?

і Міністра Справядлівасьці:

1) Ці склонны ён загадаць ураз-жа правясьці сьледзтва ў вышэй памянутай справе і зволніць бясправўна трыманых у вастрозе беларускіх сялян?

Варшава, 26 красавіка 1926 г.

## Інтэрпэляцыя №. 59.

дэпутата Сабалеўскага з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Публічных Работ у **справе скрыўджаньня беларускіх мяшчан са Стоўпцаў, у якіх забралі зямлю пад будову казармаў.**

Будуючы казармы ў Стоўпцах, Міністэрства Публічных Работ забрала зямлю, належачую да жыхароў памянутага мястэчка. Паводле ўмовы, плата за забраную зямлю мела быць вызначана паводле ацэнкі Міністэрства Публічных Работ у паразуменьні з уласьнікамі паасобных зямельных участкаў.

У рэзультуце, аднак, заплацілі за забраную зямлю толькі некаторым уласьнікам, памінаючы наступных:

1) Юліяна Бандаровіча,
2) Мацея Здановіча,
3) Ільяша Здановіча,
4) Марылю Казакевіч і
5) Марылю Канкаловіч.

Разьлічэньні з уласьнікамі забранай зямлі ад імя Міністэрства Публічных Работ зрабіў дэлегат-паўнамоцнік п. Аляксандар Прухніцкі.

Падаючы гэтае да ведама п. Міністра, падпісаныя пытаюцца:

1) Ці склонны ён выясьніць, якія матывы схілілі дэлегата Міністэрства рабіць прывілегіі адным, памінаючы другіх?

2) Ці склонны ён загадаць, каб ураз-жа выплацілі вышэй памянутым уласьнікам забранай зямлі належачыя ім сумы?

Варшава, 26 красавіка 1926 г.

## Інтэрпэляцыя № 60

дэпутата Мятлы з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да пана Міністра Гандлю і Прамысловасьці ў **справе недапушчаньня ўрадам пошты ў м. Язна газэты „Беларуская Ніва“.**

Андрэй Міхнёнак, пражываючы ў в. Амбросенкі, Язьненскай гм., Дзісьненскага пав. у Віленскім Ваяводзтве, паведамляе нас аб наступным:

„Ад 1 студзеня сёл. году выпісваю газэту „Беларуская Ніва“. Да гэтай пары атрымаў толькі тры экзэмпляры памянутай газэты, паміма таго, што акуратна плачу за газэту, а адміністрацыя газэты паведаміла мяне, што газэту рэгулярна паводле майго адрэсу высылае. Зьвяртаўся я ў гэтай справе да кіраўніка пошты ў Язне п. Адамовіча, які запэўніваў мяне, што гэтай газэты на мой адрэс не атрымліваў і тут-жа сказаў, што гэтая газэта — камуністычная і выпісваць яе ня трэба.

Няма сумліву, што п. Адамовіч, згодна з вышэй паказаным пераконаньнем, сьведама не аддае мне газэты „Беларуская Ніва“. Выясьнілася, што п. кіроўнік зужывае адрэсованыя мне і не аддаваныя экзэмпляры „Беларускай Нівы“ на свае ўласныя гаспадарскія патрэбы. Пацьвердзіць гэта можа Янка Рагоўскі з Язна і Парфір Саковіч з в. Плейкі, Язьненскай гм., у прысутнасьці якіх п. Адамовіч апакоўваў у краме Сапраньчыка ў Язне тавар у газэту „Беларуская Ніва“.

Падаючы гэты факт да ведама п. Міністра, падпісаныя пытаюцца:

1) Ці маніцца ён загадаць жорсткае сьледзтва ў гэтай справе?

2) Ці склонны ён паўчыць кіраўніка пошты ў м. Язне, што ня мае ён права цікавіцца зьместам дастарчанай адрэсатам карэспандэнцыі?

3) Ці склонны ён дысцыплінарна змусіць п. Адамовіча зьвярнуць грам. Міхнёнку кошты падпіскі за газэту „Беларуская Ніва“ за чатыры месяцы і строга прытрымоўвацца на прышласьць межаў свае компэтэнцыі?

Варшава, 26 красавіка 1926 г.

## Інтэрпэляцыя №. 61.

дэпутата Сабалеўскага з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Справядлівасьці **у справе нарушэньне права пракурорскай уладай у Вільні.**

Ня згодна з правіламі, пазваляючымі палітычным вязьням чытаць усе легальна-выходячыя газэты і кніжкі, вастрожная ўлада не дапушчае ў вастрогі цэлага раду газэт і часопісаў, або вырэзвае ў іх цэлыя страніцы подле свайго погляду. Дайшло навет ужо да таго, што пракурорская ўлада, заданьнем якой зьяўляецца нагляд над дзейнасьцяй вастрожнай улады, прымае ўдзел — і то навет афіцыяльна — у гэтай бясправўнай цэнзуры.

Вось пракурор акружнога суду ў Вільне, паперай з дня 5 лютага сёл. году № 1527, забараніў дастарчаць вязьням беларускія газэты з выняткам газэты „Грамадзкі Голас“.

Дзеля гэтага падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці і які загад маніцца ён выдаць пракурорскай і вастрожнай уладзе, каб скасаваць бясправўную цэнзуру ў вастрогах?

2) Ці склонны ён пацягнуць да адказнасьці пракурора Акружнога Суду ў Вільні за нарушэньне правоў палітычных вязьняў паперай з дня 5 лютага сёл. году № 1527?

3) Ці маніцца загадаць, каб ураз жа быў забраны назад вышэй памянуты загад віленскай пракуратуры?

Варшава, 26 красавіка 1926 г.

## Інтэрпэляцыя № 62

дэпутата Мятлы з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутр. Спраў **у справе арыштаваньня на падставе правакацыі і катаваньня Крупніка з в. Залесьсе.**

Адміністрацыйна-паліцэйская ўлада ў Заходняй Беларусі тармазіць культурнае разьвіцьцё беларускай люднасьці і тэрорызуе найболей выбітных змагароў за сялянска-работніцкую клясу — і ўсё для таго, каб зусім стэрарызаваць і задушыць беларускую працоўную клясу. Кожны болей выбітны народны дзеяч бывае раней ці пазьней „прыбраны“ паліцыяй, а для гэтай „акцыі“ служыць правакацыя.

Вось прыклад: у в. Залесьсе, Жыровіцкай гм., Слонімскага пав. арыштавалі 7. І. сёл. году студэнта В. Крупніка. Фактычным правіненьнем арыштаванага зьяўляецца яго клясовая і нацыянальная сьвядомасьць і асьветная дзейнасьць сярод сялян в. Залесьсе.

Обыск, зроблены ў часе яго арышту, ня даў ніякіх падстаў для арышту, бо фармальна яшчэ ня можна ўважаць за падставу арышту экзэмпляраў газэты „Беларуская Ніва“ і артыкулаў для гэтай газэты, а таксама карэспандэнцыі з беларускімі вучыцялямі ў справе педагагічных курсаў і г. д. Дзеля гэтага паліцыя карысталася правакацыяй. А іменна знойдзена ў кішані летняй адзежы,—якая была запакавана разам з іншымі летнімі рэчамі ў куфры — кавалачак паперы, на якой былі напісаны якіясь незразумелыя словы.

Арыштаванага дзіка б'юць і катуюць у паліцыі, жадаючы выясьненьняў у справе гэтай патаемнай паперкі, аб якой ён зусім нічога ня ведае.

Толькі пасьля некалькіх дзён змог сабе прыпомніць стары бацька арыштаванага, што фактычна летам знайшоў сьпісаны кавалачак паперы і, няцікавячыся зьместам, палажыў яе ў кішэнь сыноўскай адзежы, дзе і праляжала яна аж да арышту. Арыштаваны ня ведаў і цяпер нічога ня ведае аб гэтым і ня можа даць ніякіх выясьненьняў паліцыі.

Характэрнае сьвятло на правакацыйную тактыку кідае факт, што ў часе рэвізіі і арышту паліцыя не старалася выясьніць значэньня і паходжаньня гэтак цікавячай цяпер яе паперкі.

Падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці і далей будуць стасавацца правакацыйныя мэтады паліцыі да беларускай люднасьці?

2) Ці склонны ён загадаць, каб ураз-жа зволнілі В. Крупніка?

3) Ці маніцца загадаць сьледзтва ў гэтай справе і пацягнуць да адказнасьці віноўных правакацыі і катаваньня?

Варшава, 28 красавіка 1926 г.

## Інтэрпэляцыя № 63

дэпутата Сабалеўскага з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Справядлівасьці ў **справе нарушэньня права пракурорска-вастрожнай уладай у Наваградку.**

Капіталістычна-буржуазны ўрад вядзе палітыку ўціску і тэрорызаваньня працоўных мас. Таму-то і вастрогі Польшчы перапоўнены сялянамі і работнікамі.

Вастрожна-пракурорская ўлада дакладае сваіх стараньняў, каб да тых—і так ужо адцятых ад грамадзкага жыцьця—людзей не даходзілі ніякія весткі з вольнасьці. Нягледзячы на фармальна абавязываючыя правілы аб правох палітычных вязьняў, якім на падставе распараджэньня Маковскага дазволена чытаць усе легальна выходзячыя кніжкі і газэты,—вастрожная і пракурорская ўлада не дапускае ў вастрогі радыкальных газэт, як таксама газэт беларускіх, украінскіх ці жыдоўскіх.

Вязень Карповіч, пасаджаны ў Наваградскім вастрозе, піша нам:

„Выпісаў я беларускую газэту, але вастрожная цэнзура не дапусьціла яе. Начальнік вастрогу сказаў мне, што газэта сканфіскавана па загаду пракурора бяз ніякіх матываў. Ад сябе дадаў ён, што, атрымоўваючы польскія і расейскія газэты, можна абыйсьціся без беларускіх“.

Падаючы вышэйшае да ведама п. Міністра, падпісаныя пытаюцца:

1) Ці склонны ён паўчыць пракурорска-вастрожную ўладу, што вастрожны ўрад ня мае права рабіць уласнай цэнзуры газэт і кніжак?

2) Ці і які загад маніцца выдаць, каб правы палітычных вязьняў ня былі агранічаны?

Варшава, 28 красавіка 1926 году.

## Інтэрпэляцыя № 65.

дэпутата Мятлы з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе нарушэньня права сельскай самаўрадавай уладай у Друйскай гм.**

Клясавая палітыка абшарніча-буржуазных урадаў у адносінах да сялянскіх масаў Заходняй Беларусі выражаецца паміж іншым у нішчэньні сельскіх самаўрадаў. Права выбарнасьці гміннай улады і—што йдзе за гэтым — адказнасьць гэтай улады перад люднасьцяй гміны — патоптана. На чале сельскай гміны стаяць урадавыя камісары, назначаныя староствам. Зьяўляюцца яны заўшнікамі старостаў і аружжам-палітыкі адміністрацыйна-паліцэйскай улады і выключна ад іх залежаць. Гэтае становішча сельскага самаўраду зрабілася крыніцай дэмарылізацыі яго, што выражаецца найчасьцей пры зьбіраньні гмінных падаткаў.

Назначаныя старостамі войты і солтысы ў большасьці выпадкаў не адрозьніваюць свайго кішаня ад гміннай касы. Сялянскія масы, якія і так зруйнаваны надмернымі падаткамі на карысьць дзяржавы, падаюць яшчэ ахвярай самавольна аблічаных гмінных падаткаў.—Гмінныя ўрады зусім не вядуць рэгістрацыі сваіх падаткаў, але кіруюцца засадай: узяць, колькі толькі ўдасцца. Здараюцца навет выпадкі, што адзін і той самыя падатак зьбіраць два разы з сялян і ўсялякія скаргі тут безрэзультатны.

Гэтакі выпадак меў паміж іншым месца ў Друйскай гміне Браслаўскага пав. 1 красавіка сёл. году гмінная ўлада загадала прымусова сьцягнуць пры помачы паліцыянта гмінны школьны падатак за мінулы год. Большасьць жыхароў заплаціла ўжо гэты падатак, але гэта, аднак, ня было ўзята пад увагу. Паліцыянт ішоў у кожную хату і трэбаваў ад кожнага жыхара, каб гміны плацілі падатак,—карыстаючыся з таго, што большасьць сялян не захавала квіткоў аб заплачэньні гэтага падатку.

Для харэктэрыстыкі падаем факт, які меў месца пры гэтым з жыхарам гэтае-ж вёскі Янкай Стэфановічам. — Ад Стэфановіча, як і ад іншых, узялі прымусам падатак за 1925 г., паміма таго, што падатак ужо быў заплачаны платнікам. Тады Стэфановіч пайшоў да гміннага ўраду, паказаў ім адпаведны квіт і зажадаў звароту грошаў. Войт стараўся пераканаць платніка, што ўзяты ад яго падатак залічаны за недаплату за 1924 г. Аказалася аднак, што Стэфановіч паказаў квіт і на 1924 г. Дзеля гэтага войт стараўся пераканаць платніка, што хоць квіт гэты за школьны падатак, то аднак грошы гэтыя былі ўпісаны ў іншую рубрыку, а школьны падатак быў не аплачаны. Спаткаўшы рашучы пратэст з прычыны гэтага вядзеньня касы, войт прабаваў застрашыць Стэфановіча, пагражаў яму пратаколам, арыштам і г. д. Грошай аднак за бясправўна ўзяты падатак не зьвярнуў.

Падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці і які загад маніцца выдаць, каб установіць дакладны кантроль над гміннымі касамі?

2) Ці склонны ён загадаць жорсткае сьледзтва ў справе бясправўнага зьбіраньня падаткаў гмінным урадам у Друі і пацягнуць віноўных да адказнасьці.

Варшава, 28 красавіка 1926 г.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.



Выдавец: Соймавы Клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.